Дадатак да „Камунара Магілеўшчыны“.

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ТЭРАРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

№ 17 Серада 7-га мая 1930 г. № 17

# Шчырае прывітаньне атраду новых чырвоных байцоў!

## Падрыхтавацца да сустрэчы навабранцаў

*(Артыкул камандзіра-камісара дывізіі т. Шавалдзіна)*

13 год жыве і мацнее Саюз Савецкіх Рэспублік у варожым атачэньні капіталістычнага сьвету. 13 год капіталісты войстраць зубы на савецкую ўладу. Яны не даюць нашай краіне спакойна займацца будаўніцтвам сацыялістычнай гаспадаркі.

Буржуазія мабілізуе ўсе свае сілы, уключаючы і чорную зграю—папоў, рабінаў, ксяндзоў,—каб задушыць, зруйнаваць вялікую будоўлю савецкай сацыялістычнай гаспадаркі.

Для таго, каб абараніць свайго саюзьніка—кулака, якога мы ліквідуем на грунце суцэльнай калектывізацыі, каб узьдзейнічаць на несьвядомую частку насельніцтва капіталістычных краін, папы ўсіх колераў аб'ядноўваюцца ў „крыжовы паход“ супроць вялікай краіны Саветаў.

Камуністычная партыя на працягу ўсёй рэвалюцыі не мяняла сваёй палітыкі ў адносінах да рэлігіі і веруючых і зараз не мяняе. Гэта лішні раз падкрэсьлівае, што прычыны «крыжовага паходу» не ў прасьледваньні рэлігіі, а ў тым, што мы пасьпяхова выконваем пяцігодку і што мы прыступілі да ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнае калектывізацыі.

Апошняе здарэньне ў Варшаве—спроба ўзарваць пякельнай машынай усё наша пасольства—сьведчыць аб новай спробе навязаць вайну Савецкаму Саюзу.

На ўсе варожыя выбрыкі імпэрыялістаў наш Савецкі Урад няўхільна падкрэсьлівае непарушнасьць нашай мірнай палітыкі. Працоўныя СССР вядуць барацьбу за мір. Але разам з гэтым працоўныя масы Саюзу нікаму і ніколі не дазволяць сарваць нам сацыялістычнае будаўніцтва, а Чырвоная армія была, ёсьць і будзе заўжды грозным стражам для ўсіх ворагаў СССР.

Прыклады ўзорных дзеяньняў, вытрыманасьці, устойлівасьці, гэраізму, дысцыпліны нашай Чырвона-Штандарнай Далёка-Усходняй няхай памятае буржуазія.

Новы чарговы прызыў байцоў, нарадзіўшыхся ў 1907 г., улівае новую маладую струю ў нашую баявую сям'ю.

Навабранцы-пераменьнікі 1907 г. перажылі не толькі гады грамадзянскай вайны, яны бачаць і перажываюць непасрэдны ўзрост сацыялістычнай гаспадаркі нашай краіны, а шмат якія зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі сацыялістычнага сэктару, а гэта для Чырвонай арміі мае вялікую значнасьць.

Нашай задачай зьяўляецца—гэты малады арганізм загартаваць, перадаць яму традыцыі старых змагароў, выпрацаваць з яго сілу, зрабіць сапраўднага абаронца Кастрычнікавых заваёў і вялікай будоўлі—пяцігодкі.

Задачай кожнага камандзіра, паліт-працаўніка і строеслужачага чырвонаармейца будзе:

Сустрэць свайго таварыша з поўнай увагай, у першых-жа гутарках проста, талкова, без крыку і суетні апавядаць і паказаць усе бытавыя паходкі і ўмовы лягернай службы, вучобы і жыцьця.

У пачатку занятак памятаць з кім маем справу, адразу трэбаваць усё нельга, цярпліва, спакойна, але чотка і настойліва дамагацца ўпямленьня дзейнага заданьня, не заспакойвацца да таго часу пакуль не будзе 100 процантаў выкананьня і ўпямленьня пройдзенай праграмы. У далейшым працэсу выхаваньня і навучаньня памятаць і паступова ўнушаць байцам, што асяродкам нашай вучобы зьяўляюцца спробныя вучэньні, але каб працаваць у складзе батальёна-атрада неабходна мець вельмі добрую індывідуальную вывучку і асабліва быць добрым стралком.

Дзеля гэтага з першых дзён работы ў разьдзеле, роце тэхнічная і тактычная вывучка байцоў па спэцыяльнасьцях павінна заняць асаблівую ўвагу з боку камандзіраў.

Заўжды помніць і ў ніякім выпадку не дапушчаць перарыву агнявой тактыкі ад агульна-тактычных абставін.

Каб быць дужым і скрытным байцом, трэба абавязкова штодзённа закаляць свой арганізм, асабліва рукі і ногі. Урач тут павінен байцу прыйсьці на дапамогу.

Калі ўсе пытаньні баявой падрыхтоўкі будуць упямлены і ўсе задачы, высунутыя рабоча-сялянскім урадам і РВС Саюзу, выкананы на 100 процантаў, толькі тады пагрозы капіталістаў нам ня будуць страшны.

## Ячэйцы ТДА-Авіяхэму — падцягнуцца!

Нашай брыгадзе прышлося праверыць становішча міжзборавай работы па Сідараўскім сельсавеце, Лупалаўскага раёну. Што-ж мы выявілі?

Сельсавет мае плян вайсковай работы, сельсавет таксама клапаціўся аб забесьпячэньні вайсковай работы, ім адпушчана 48 руб.

Парт'ячэйка і ячэйка ЛКСМБ у міжзборавай рабоце ўдзельнічаюць вельмі слаба.

Ячэйка ТДА-Авіяхэму яшчэ з студзеня зусім ніякай работы не праводзіць.

Трэба адзначыць, што працуе добра вайсковы гурток, які займаецца плянава па 4 разы ў месяц, прычым наведваюць гурток 85 процантаў слухачоў. Пераменны склад пунктамі па ліквідацыі няпісьменнасьці не ахоплен і гэта адзін з буйнейшых недахопаў у рабоце з пераменьнікамі.

*Брыгадзір.*

# Замацаваць дасягнутыя посьпехі ў міжзборавай

## Па нядбаласьці да вайсковай падрыхтоўкі працоўных—агонь!

### У дапамогу міжзборавай

Падвядзеньне матар'яльнай базы пад міжзборавую работу ёсьць абавязак усіх мясцовых арганізацый. Без вырашэньня гэтага пытаньня вельмі цяжка будзе наладжваць усю вайсковую прапаганду сярод насельніцтва. Пакуль сапраўднага зруху ў гэтай галіне яшчэ няма. Наадварот, ёсьць асобы (т. Галуза), якія здольны запужваць судом тых, хто асьмеліўся даць 5 процантаў на пасіленьне міжзборавай работы за кошт сродкаў па самаабкладаньні.

Пагэтаму асабліва трэба вітаць насельніцтва, дапрызыўнікаў, пераменнікаў і сельсаветы тых вёсак, дзе ўжо ня толькі зразумелі неабходнасьць матар'яльнага забесьпячэньня вайсковай работы, а дзе практычна гэтае забесьпячэньне ўжо ёсьць факт. Сёньня мы друкуем тых, хто ідзе ў гэтым пытаньні ўпераддзе другіх.

Вядома, гэта толькі пачатак; у далейшым партарганізацыям трэба пытаньне матар'яльнага забесьпячэньня міжзборавай і ўсёй вайсковай работы з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю вырашыць у станоўчы бок. Падтрымаць ініцыятыву працоўных мас у гэтым напрамку і бязьлітасна змагацца з настроямі, гаворачымі аб тым, што „з падрыхтоўкай да абароны можна пачакаць".

*В. С.*

### Хто працуе, а хто і сьпіць...

Групы пераменьнікаў па Заходзкаму сельсавету праводзяць рэгулярныя заняткі, дзе прапрацоўваюць дадзеныя цалкам заданьні.

Работа груп разгарнулася так шырока, што заняткі пачынае наведваць усё насельніцтва, асабліва моладзь.

Асабліва добрую работу трэба адзначыць груп вёсак Церахавы Пруды і Азер'е, яны налічваюць вялікую групу скалочанага вайсковага актыву.

Па вёсках Касьцюрыца, Церахавы Пруды і Захады ня толькі добра наведваюць заняткі групы пераменьнікаў, а і насельніцтва, процант апошняга даходзіць да 76.

Калі добра пастаўлена праца груп па Заходзкаму сельсавету, дык куды горш яна ідзе па Нічыпараўскаму сельсавету. Так, Нічыпараўскія пераменьнікі заняткі наведваюць толькі на 45 процантаў, гэта ў цэнтры, дзе пад бокам хата-чытальня. Нічыпараўцы нават адсталі ад сваіх суседзяў-пераменьнікаў вёскі Чарапцы.

Ёсьць і такія групы, дзе заняткі прайшлі фармальна, гэта значыць праграму прайшлі ня ўсе, а зусім нязначны процант. Да такіх груп трэба аднесьці пераменьнікаў Сухарэўскага сельсавету за выключэньнем Сафійскай групы.

Старшыні груп павінны больш, чым да гэтага часу, адказваць за пастаноўку занятак груп.

*С—кін.*

### Абрасла работа павуціньнем...

Нічыпараўскі сельсавет, Лупалаўскага раёну, міжзборавай рабоце ніякай увагі не ўдзяляе. Сродкаў на забесьпячэньне работы з пераменьнікамі між зборамі і вайсковай работы сярод насельніцтва сельсавет і ня думаў адпускаць. Актыў пераменьнікаў і дапрызыўнікаў скарыстоўваецца на грамадзкай рабоце вельмі мала, толькі 5 чалавек.

Трэба сказаць, што і РВК ніякіх паказаньняў пра паміжзборавую і вайсковую работу ніколі не даваў. Уся работа РВК зводзіцца да прысылкі ў сельсаветы загадаў аб зборах.

Работа вайсковага кутку пастаўлена далёка не здавальняюча, куток працуе толькі ў дні занятак груп.

Ячэйка ТДА-Авіяхэму калісьці была, але ўжо даўно няма сакратара і цяпер ніхто пра ячэйку нічога ня ведае.

Больш-менш рэгулярна займаюцца вайсковыя групы пераменьнікаў, у якіх праведзена па 4—6 занятак.

Нічыпараўскаму сельсавету, як нікому, трэба падцягнуцца, наладзіць работу вайсковых куткоў, забясьпечыць вайсковую работу сродкамі, зноў арганізаваць ячэйку ТДА Авіяхэму.

Работнікам Нічыпараўскага сельсавету вайсковую работу трэба лічыць адной з адказьнейшых работ!

*№—скі.*

### Папяровае шэфства

Прайшло шмат часу, як над калгасам „3 Інтэрнацыянал", Асмолавіцкага сельсавету, Клімавіцкага раёну, узяў шэфства №-скі сапбат. Пра яго працу можна сказаць вельмі каротка— ён нічога ў калгасе не рабіў, а толькі карміў абяцанкамі.

Вось факт:

Абяцаў „шэф" абсталяваць клюб арганізаваць там вайсковы куток і шмат яшчэ чаго абяцаў зрабіць, але мне ад калгасьнікаў даводзіцца пісаць, што такія шэфы нам не патрэбны, якія толькі абяцаюць, а на самой справе не выконваюць сваіх абяцанак.

Мы, калгасьнікі выносім вялікую ўдзячнасьць прафшколе, якая адрамантавала нам плугоў на 200 руб., хоць і не абяцала так, як сапбат...

*Падабед Васіль.*

### Вайсковая работа на задворках

Нічыпараўская хата-чытальня дрэнна праводзіць вайсковую работу сярод пераменьнікаў і насельніцтва. Маючыяся пры хаце-чытальні вайсковы куток і гурток не працуюць, стралковая справа закінута. Дрэнна пастаўлена работа з прасоўваньнем у масы вайсковай кнігі. Віной усяму тое, што парт'ячэйка вайсковай работай цікавіцца мала. Наогул, уся вайсковая работа Нічыпараўскага сельсавету знаходзіцца ў загоне, на задворках.

Трэба парт'ячэйцы памятаць пра вайсковую небясьпеку і без ніякіх агаворак кіраваць вайсковай работай у сельсавеце па дзелавому, па бальшавіцку!

*Саўткін.*

### Падставы добрыя, кіраўніцтва бракуе

Фабрыка „Спартак" мае ўсе падставы для самага шырокага разгортваньня вайсковай работы. Напрыклад, ёсьць 6 вінтовак, вайсковая бібліятэчка, плякаты і г. д. Фабком кожны год адпушчае на вайсковую работу 200 руб. Вайсковы куток і яго абсталяваньне можна назваць прыкладным для другіх.

Акрамя гэтага, на вытворчасьці занята некалькі дзесяткаў пераменьнікаў і некалькі камандзіраў запасу.

Наогул абставіны для міжзборавай і вайсковай работы добрыя. Але вінаваць адных спрыяючых умоў яшчэ мала, патрэбна і належнае кіраўніцтва партарганізацыі, яно-ж зьяўляецца недастатковым, а пагэтаму і вайсковая работа на фабрыцы пастаўлена нездавальняюча.

*П. Гіц.*

# Працу Авіахэму—у асяродак увагі

## Качаюць Сухараўскія камсамольцы

Сухараўская ячэйка КСМ па ваенізацыі сваіх членаў і працоўнага сялянства нічога не рабіла і ня робіць. Шмат камсамольцаў, нават яшчэ да гэтага часу, ня ўцямілі неабходнасьці ваенізацыі насельніцтва. З 18 камсамольцаў 5 знаходзяцца ў ячэйцы ТДА-Авіахэму, але яны толькі лічацца членамі на паперы, бо ніякай працы там не вялі і зараз не вядуць. Між іншым, камсамольцы ня маюць ніякіх нагрузак.

Партыйная ячэйка міжзборавай работай і наогул ваенізацыяй таксама не займаецца і камсамольцамі па гэтаму пытаньню не кіравала.

Асобныя таварышы ня толькі не дапамагаюць міжзборавай рабоце, а нават зрываюць яе. Напрыклад, сэкратар ячэйкі т. Войтаў абяцаў правесьці палітзаняткі з пераменьнікамі, а калі ўсе пераменьнікі зьявіліся ў тэрмін, дык ён не зьявіўся, чым сарваў гэтыя занятні.

Цікава ведаць, з якога часу Сухараўская ячэйка будзе лічыць вайсковую работу не абыякавай, а адказнай, ігнараваньне якой ёсьць злачынства?

*Ж.*

## Чэрнеўскія „выручаюць" адзін другога

„Чэрвеўская ячэйка ТДА-Авіахэму вельмі значная, 193 чалавекі",—так заявіў з пагардаю сэкратар ячэйкі т. Лапіраў.

Ячэйка за мінулы год вырасла на 25 асоб. Сапраўднага вучоту членаў няма, ёсьць запазычанасьць ад 3 месяцаў да году.

Формы масавай работы, што прыстасаваліся ў 28-29 г., цяпер знаходзяцца не ў пашане. Зараз галосныя чыткі газэт, гутаркі, палітбаі, вечары пытаньняў і адказаў, вечары самадзейнасьці і г. д. ня ўжываюцца, а раней гэтыя формы праводзіліся і ня дрэнна.

Партыйная ячэйка работаю ячэйкі ТДА-Авіахэму ня кіруе і не патрабуе адказнасьці за гэтую работу ад работнікаў, што ёю кіруюць.

Ячэйка не заўсёды сур'ёзна адносіцца да правядзеньня сваіх сходаў. Быў выпадак правядзеньня супольнага сходу ячэйкі з ячэйкай МОПР'у з абвесткай дню: міжнароднае становішча і перавыбары ячэек МОПР'у і ТДА-Авіахэму. Пасьля такога сходу ўдзельнікі яго вынесьлі рэзалюцыю: „У адказ на выступленьне нашых ворагаў супроць СССР, усім уступіць у ячэйку МОПР'у і ТДА-Авіахэму".

Адным словам, «выручылі» адзін другога, папоўніліся адзін за лік другога.

Работу ячэйкі можна ахарактарызаваць так—мала жывой сапраўднай работы, а больш сьпячкі, мяртвячыны.

Прачнецеся, таварышы авіахэмаўцы, небясьпека супроць СССР узрастае, рыхтуйцеся да абароны краіны! *С-н.*

## Засталіся бяз білетаў

Пры мясцкоме № 42 на разьезьдзе № 12, як і ўсюды, існуе ячэйка ТДА-Авіахэму. Ужо даўно ў ячэйку быў прысланы абежнік з райрады з лістоўкамі аб 4 лётарэі ТДА-Авіахэму. Шмат членаў Авіахэму хацелі купіць білеты, але сэкратар ячэйкі ТДА-Авіахэму т. Вэйнэр В. не паклапаціўся атрымаць білеты; ён, бачыце, баіцца зайсьці ў райраду, бо за яго ячэйкай ёсьць запазычанасьць.

*Чужы.*

## Варта прыкладу

У гутарцы са мной старшыня Шклоўскага гарадзкога спажывецкага таварыства т. Твардоўскі паведаміў, што гарадзкая каапэрацыя за першы квартал 1930 году адпусьціла на пасіленьне міжзборавай работы 200 руб. У далейшым каапэрацыя мяркуе арганізаваць за свае сродкі два гурткі вайсковых ведаў і выпісаць для іх кіно-перасоўку з карцінамі з жыцьця Чырвонай арміі.

*Брыгадзір Гіц.*

## Непрабудны сон і беспрацоўе

Ячэйкі ТДА-Авіахэму Лупалаўскага раёну працуюць дрэнна, адсутнічае ў іх плянавасьць работы, сыстэма работы, ужываецца ў працы ячэек выпадковасьць работы.

Дрэнна пастаўлена выхаваўчая работа ўнутры саміх ячэек і з насельніцтвам, сходы праводзяцца не рэгулярна, на іх абмяркоўваюцца адцягненыя пытаньні.

Гурткі вайсковых ведаў арганізаваны ня ўсюды, а калі і арганізаваны, дык зьяўляюцца папяровымі гурткамі, а не працуючымі.

Члены Авіахэму цікавяцца стралковым спортам, насельніцтва таксама выяўляе да стралковай падрыхтоўкі інтарэс, а ячэйкі гэтага ня ўлічваюць, калі праводзяць стральбу, дык праводзядь выпадкова, і праведзеную адну-дзьве стральбы лічуць за вялікае здарэньне і дасягненьне ў рабоце.

Дрэнна працуюць ячэйкі ня толькі ў глухіх мясцох, як Заходзкім, Мастоцкім і Аххівіцкім сельсаветах, але і там, дзе маецца хата-чытальня.

У Сухарох і Нічыпаравічах, дзе маюцца хаты-чытальні, ёсьць 3 ячэйкі ТДА-Авіахэму, і яны не працуюць, хоць ёсьць усе магчымасьці да правядзеньня работы.

Ячэйкі Авіахэму дрэнна ўвязваюць сваю работу з арганізаванымі вайсковымі куткамі, лічуць, што работу будзе весьці вайсковы куток, а іх справа старана.

Нярэдка кіруючы склад ячэек, дзякуючы адсутнічаньню выхаваўчай працы з актывам, кіраўніцтва з боку раённага савету, ня ведае парадку ўзаемаадносін з хатай-чытальняй і вайсковым кутком.

Пераменны склад у ячэйцы Авіахэму ўцягнуты слаба, ёсьць ячэйкі, у якіх няма ніводнага пераменьніка-члена Авіахэму.

Ячэйкі, дрэнна працуючы са сваімі членамі, зусім забываюць пра работу з пераменьнікамі, ня ўцягваюць іх у практычную работу ячэек.

У рабоце ячэек не скарыстоўваецца начальствуючы склад запасу і пераменьнікі, сам жа камсклад пасыўны, не праяўляе актыўнасьці і ініцыятывы. Як ячэйкі, так і райсавет Авіахэму не зварачваюць увагі на падрыхтоўку міжзборавага актыву, з ліку пераменьнікаў і членаў Авіахэму.

З усяго бачна, што райсавет у падрыхтоўцы актыву спадзяецца на полк, які падрыхтоўвае актыў у парыяд збораў.

Ні ячэйкі, ні райсавет Авіахэму не праводзяць арганізаванай работы да збораў пераменнага складу, як і ў падрыхтоўцы актыву, лічуць гэту работу справай парткамсамольскіх ячэек і сельсаветаў.

Кіраўніцтва нізавымі ячэйкамі з боку райавіахэму пастаўлена дрэнна, няма жывога кіраўніцтва, у наяўнасьці маецца папяровае кіраўніцтва.

Райсавет не арганізоўвае перасоўных форм работы, не прыстасоўвае гэту працу да праводзімых грамадзкапалітычных кампаній, як калгаснае будаўніцтва, вясеньні сеў і г. д.

Райсавет не арганізаваў грамадзкую думку за лепшае разгортваньне вайсковай работы ў калгасах, не праявіў ініцыятывы і не правёў работы за арганізацыю севу вайсковай дысцыпліны.

*С.*

